**Гродна**
№13 (519),
30 чэрвеня 2019

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ТОП-10 КАТАЛІЦКІХ ЖАМЧУЖЫН ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

**Лета – спрыяльны час для адпачынку. Для адных ён асацыіруецца ў першую чаргу з паездкай на мора, для другіх – з падарожжамі па гарадах і мястэчках. Многія нашы суайчыннікі ўжо даўно выбіраюць родную старонку ў якасці альтэрнатывы замежным курортам. І ў гэтым няма нічога дзіўнага: маем прыгожыя краявіды, багатую гісторыю. Наведваючы каталіцкія святыні, можам узбагаціць сваё бачанне адносна нашай самабытнай архітэктуры. Прапануем гід па месцах, якія сапраўды варта наведаць. Летні час з'яўляецца для гэтага добрай нагодай.**

● *працяг на с. 4–5*

**"Святыня, пабудаваная з цэглы, – знак жывога Касцёла". Папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

## XIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 9, 51–62**

Калі набліжаліся дні ўзнясення Езуса, Ён цвёрда вырашыў ісці ў Ерусалім і выслаў пасланцоў перад сабою. Пайшоўшы, яны ўвайшлі ў самаранскую вёску, каб падрыхтаваць Яму побыт. Але там не прынялі Яго, бо Ён накіроўваўся ў Ерусалім. Калі вучні Якуб і Ян убачылі гэта, сказалі: “Пане, хочаш, мы скажам, каб агонь сышоў з неба і знішчыў іх?”. Але Ён, павярнуўшыся да іх, забараніў ім. І пайшлі ў іншую вёску. Калі яны былі ў дарозе, хтосьці сказаў Яму: “Я пайду за Табою, куды б Ты ні пайшоў”. Езус сказаў яму: “Лісы маюць норы, і птушкі нябесныя – гнёзды, а Сын Чалавечы не мае, дзе схіліць галаву”. А другому сказаў: “Ідзі за Мною”. Той адказаў: “Пане, дазволь мне спачатку пайсці і пахаваць айца майго”. Але Езус сказаў яму: “Пакінь мёртвым хаваць сваіх мёртвых, а ты ідзі і абвяшчай Валадарства Божае”. Яшчэ іншы сказаў: “Я пайду за Табою, Пане, але спачатку дазволь мне развітацца з хатнімі маімі”. Езус жа сказаў яму: “Ніводзін, хто паклаў руку сваю на плуг і азіраецца назад, не надаецца да Валадарства Божага”.

### ПАКЛАДЗЁМ РУКУ НА ПЛУГ

Разумны чалавек здольны абраць у жыцці мэту і імкнуцца да яе, не азіраючыся назад. Умее распазнаць, што гарантуе яму сапраўднае шчасце; пазбавіцца ад ілжывых вобразаў і людзей, якія распаўсюджваюць іх. Цэніць мудрых настаўнікаў, прымае перадаваемыя імі веды, пераймае іх паводзіны.

Найлепшым Настаўнікам з’яўляецца Хрыстос. Ён указвае шлях да сапраўднага шчасця і вучыць, як таго дасягнуць. Ставіць канкрэтныя патрабаванні, якія могуць здавацца складанымі, цяжкімі, нават бязлітаснымі. Але калі мы разумеем мэту гэтых намаганняў, гатовы прыняць кожны выклік.

Варта ўсведамляць уласную слабасць, каб пакінуць убаку нават добрае, калі яно перашкаджае накіроўвацца за Настаўнікам; апазнаваць тое, што на першы погляд здаецца карысным, але пры далейшым разглядзе аказваецца разбуральным; адштурхоўваць тое, што прыносіць часовую выгаду, але для Неба з’яўляецца марнасцю.

Мы кожны дзень павінны выбіраць – аднаўляць выбар, здзейснены на святым хросце. Давайце пастаянна адракацца ад таго, што перашкаджае імкнуцца за Хрыстом. Пакладзём руку на плуг – будзем трываць пры Езусе, не азіраючыся назад!

**Ці з’яўляецца тое, што Божае, прыярытэтным для мяне?**

**Якія мэты я стаўлю сабе ў жыцці?**

## XIV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 10, 1–12. 17–20**

Пан прызначыў семдзесят двух іншых вучняў і паслаў іх па двое перад сабою ў кожны горад і месца, куды сам хацеў ісці. І сказаў ім: “Жніво сапраўды вялікае, а работнікаў мала, таму прасіце Гаспадара жніва, каб паслаў работнікаў на жніво сваё. Ідзіце, вось Я пасылаю вас, як ягнят сярод ваўкоў. Не бярыце ні машны, ні торбы, ні сандаляў і ў дарозе нікога не вітайце. У які б дом ні ўвайшлі, спачатку кажыце: «Спакой гэтаму дому!». І калі будзе там сын спакою, то на ім спачне ваш спакой. Калі ж не, то вернецца да вас. Заставайцеся ў тым доме, ешце і піце, што ёсць у іх, бо работнік заслугоўвае платы сваёй. Не пераходзьце з дому ў дом. І калі прыйдзеце ў які горад, і прымуць вас, ешце, што вам пададуць. І аздараўляйце ў ім хворых, і кажыце ім: «Наблізілася да вас Валадарства Божае». Калі прыйдзеце ў які горад і не прымуць вас, то выйдзіце на яго вуліцы і скажыце: «Нават пыл горада вашага, які прыліп да ног нашых, атрасаем; аднак ведайце, што наблізілася да вас Валадарства Божае». Кажу вам, што Садоме ў дзень той будзе лягчэй, чым гораду таму”.

Вярнуліся семдзесят два з радасцю і казалі: “Пане, нават злыя духі слухаюцца нас у імя Тваё!”. А Ён сказаў ім: “Я бачыў сатану, які падаў з неба, як маланка. Вось Я даў вам уладу наступаць на змей і скарпіёнаў і на ўсю варожую сілу, і нішто не пашкодзіць вам. Аднак не радуйцеся таму, што духі слухаюцца вас, а радуйцеся таму, што імёны вашыя запісаны ў нябёсах”.

### СТАНЕМ ВОЛЬНЫМІ

Евангелле з’яўляецца Добрай Навінай аб збаўленні. Каб яна магла трапіць да як мага большай колькасці людзей, Хрыстос пасылае сваіх вучняў усюды, куды намераны пайсці сам. А Ён прагне дабрацца нават да самых аддаленых куткоў зямлі, у якіх яшчэ не пазналі святло Божай ласкі.

Настаўнік дае сваім супрацоўнікам напамін, які мусяць выканаць, каб іх евангелізацыйная місія была паспяховай: павінны адмовіцца ад усіх прывязанасцей да матэрыяльных рэчаў, да асоб і да самых сябе. Трэба спачатку выкараніць сваё сэрца са свету, каб пазней магчы эфектыўна паглыбіць яго ў Божыя справы.

Свабода ад перабольшанага клопату пра надзённыя справы робіць магчымым поўны давер да Бога, даручэнне Яму ўсяго, дзейнічанне з Яго моцай. Узнагародай за паслухмянасць з’яўляецца знак Хрыстовага крыжа, знак прыналежнасці Яму – той знак, які становіцца адчувальным дзвярыма да вечнай прысутнасці міласэрнага Стварыцеля.

**Ці выконваю я ўмовы, якія ставіць Боскі Настаўнік?**

**Ці здольны быць вольным ад рэчаў і асоб?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Канікулы з Богам

*Кожнаму неабходны адпачынак. Не толькі звыклы штодзённы, але і больш доўгі – водпуск ці канікулы. Ён дапамагае аднавіць сілы і расслабіцца, каб пазней з запалам і энергіяй узяцца за працу ці вучобу.*

Адпачынак не можа быць раўназначны бяздзейнасці. Ён павінен адрозніваца ад паўсядзённых заняткаў: асабе, якая працуе інтэлектуальна, патрэбна больш руху і актыўнасці, якая працуе фізічна – палёгка для цела і напружванне розуму. Варта ладзіць падарожжы, прымаць удзел у пілігрымках, а рэшту вольнага часу прызначаць на культурныя падзеі і дастатковы доўгі, спакойны сон.

Неабходна таксама памятаць пра рэчы, ад якіх не можа быць водпуску. Як сцвярджае старая прыказка, няма канікул у школе жыцця. Няма іх таксама ад Бога. Трэба нястомна пазнаваць Пана, каб разам з тым глыбей разумець назначаны Ім сцэнарый свайго жыцця, для якога падрыхтаваны паспяховы фінал. Трэба шукаць найлепшы спосаб для рэалізацыі гэтага сцэнарыя, багатага на разнастайныя сюрпрызы – часам радасныя, а часам сумныя. Пры тым важна ў любой сітуацыі заставацца чалавекам, які прызначаны найперш да святасці. Калі памятаем, што нашай мэтай з’яўляецца збаўленне, Бог заўсёды будзе на першым месцы.

Тады мы трываем з Панам пры любых абставінах і не можам дазволіць сабе жыць так, нібы Яго не існуе.

Час водпуску і канікул павінен стаць нагодай для паглыблення сваёй малітвы, для даўжэйшых размоў з Панам пра ўласныя клопаты і радасці. Гаворка не аб нагружэнні сябе дадатковымі малітвамі і памнажэнні малітоўных пунктаў дня, але аб жывых сустрэчах з Богам у цішыні сэрца, у засяроджанні на ўлонні прыроды. На самой справе ў тым, каб знайсці з дзясятак хвілін цягам цэлых сутак на размову са Стварыцелем, няма нічога складанага.

Важна памятаць пра св. Імшу, паколькі гэта “сэрца кожнай нядзелі”. Варта заходзіць у святыню падчас экскурсій, каб там хаця б хвілінку пабыць у цішыні. Наведванне сакральных аб’ектаў і размовы з Панам – таксама досвед Божай прысутнасці. Праведзеныя такім чынам канікулы павінны паспрыяць таму, што вернемся да сваіх абавязкаў не толькі адпачыўшымі, але і больш шчаслівымі.

**Дарагія Чытачы!**

Не дазволім, каб Хрыстос дарэмна чакаў сустрэчы з намі ў Эўхарыстыі, у сакраманце пакаяння і паяднання, у малітве... Канікулы з’яўляюцца цудоўным часам, дарам Нябеснага Айца. Дык няхай гэты дар будзе добра намі выкарыстаны!

## ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ

## ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Камісія па справах экуменізму і міжрэлігійнага дыялогу

Сінадальная камісія па справах экуменізму і міжрэлігійнага дыялогу імкнецца спрыяць адзінству хрысціян, кіруючыся заклікам нашага Пана Езуса Хрыста: “Каб былі адно” (Ян 17, 21) – а таксама пашыраць павагу, спакой і дыялог паміж рэлігіямі. Сваю задачу Камісія выконвае на 4-ох узроўнях:

- **навуковым – садзейнічаючы вывучэнню дакументаў, што датычаць экуменізму і міжрэлігійнага дыялогу;**
- **духоўным – заахвочваючы да ўдзелу ў справе малітвы аб еднасці і да павагі паміж хрысціянамі і прадстаўнікамі іншых рэлігій;**
- **практычным – рэалізуючы тое, што было выпрацавана на навуковым і духоўным узроўні;**
- **міжасобаснага супрацоўніцтва (на сямейных, сяброўскіх, таварыскіх падмурках) – падкрэсліваючы патрэбу людзей добрай волі, а таксама абавязковасць народнага руху, распачатага тымі, хто верыць у аднаго Бога.**

Члены Камісіі знаходзяцца на этапе глыбокага знаёмства з праблематыкай экуменізму, міжрэлігійнага і светапогляднага дыялогу на тэрыторыі Гродзенскай дыяцэзіі. У сувязі з гэтым распрацаваны пытанні, якія былі разасланы ў выбраныя парафіяльныя супольнасці. Яны маюць ацаніць актуальнае палажэнне ў мясцовым Касцёле. У некаторых парафіях ужо адбыліся сустрэчы з вернікамі, дзе члены Камісіі падчас лекцыі наблізілі прысутным ідэю экуменізму.

Камісія заахвочвае вернікаў Гродзенскай дыяцэзіі пазнаваць гісторыю асобных экзезіяльных супольнасцей, іх дактрыну і духоўнасць. Адзначае, што абавязковым з’яўляецца падтрымліванне братэрскіх адносін з Праваслаўнай Царквой і наладжванне сталага дыялогу з іншымі хрысціянскімі, пратэстанцкімі канфесіямі. Нагодай для гэтага могуць быць культурныя падзеі, такія як канцэрты рэлігійнай музыкі ці песні, а таксама ініцыятывы, звязаныя са штодзённым жыццём лакальных супольнасцей. Камісія падкрэслівае, што экуменічнае супрацоўніцтва ў сферы стварэння і распаўсюджвання культуры вызнаўцаў Хрыста з’яўляецца абавязкам вернікаў перад аблічам выразна прапагандаванай у свеце антыхрысціянскай культуры.

Акрамя таго, члены Камісіі заахвочваюць да малітвы ў інтэнцыі жаданага супакою. Збіранне разам людзей было мэтай місіі Езуса, паколькі для збаўлення патрэбна адзінства. Стварыцель прагне, каб кожная сям’я, супольнасць, Касцёл, усё чалавецтва трывалі ў еднасці з Ім і адзін з адным.

Молімся да Святога Духа асабліва за тых, хто супрацоўнічае ў справе збліжэння “рассеяных Божых дзяцей”. Няхай Суцяшыцель распаліць ва ўсіх нас жаданне быць адным цэлым.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Цуд у Любчы!

## Ажыўляючы веру, уваскрашаючы гісторыю

*Невялічкі гарадскі пасёлак Любча, што пад Навагрудкам, які не налічвае нават 1500 жыхароў і мае ў 10 разоў менш католікаў, здаўна хавае ў сабе велізарную хрысціянскую каштоўнасць. Менавіта адсюль пачала распаўсюджвацца вера ў Езуса на тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага. Тут быў пабудаваны першы каталіцкі храм і заснавана першае лацінскае біскупства на нашых землях.*

### АД ХАТЫ ДА ХРАМА

Парафіяльная супольнасць з’явілася ў Любчы ў XIII стагоддзі. Вакол яшчэ панавала язычніцтва, а вызнаўцы Хрыста ўжо збіраліся на набажэнствы ў касцёле, які ўзвышаўся леваруч ад Любчанскага замка. Дарэчы, там быў каранаваны Міндоўг – першы вялікі князь літоўскі. Палац захаваўся дагэтуль, а святыня адышла ў нябыт – была спалена падчас Трынаццацігадовай вайны (1654–1667 гг.).

З тых часоў у любчанскай каталіцкай супольнасці распачаўся складаны перыяд блуканняў, які, можна сказаць, завяршыўся толькі 30 чэрвеня бягучага года. У гэты дзень у Любчы асвяцілі новую святыню. Яна “вырасла” за няпоўныя 2 гады дзякуючы тытанічным намаганням пробашча навагрудскай парафіі кс. Юрыя Жэгарына і тутэйшых вернікаў.

Святыня з’явілася на месцы былой зубапратэзнай – старога непрыкметнага будынка, які апошні дзясятак гадоў служыў мясцовым вернікам капліцай. ***“Каб мы маглі раз на тыдзень у больш-менш прыдатных умовах збірацца на св. Імшы, трэба было праз дзень прыходзіць туды і распальваць печ”,*** – успамінае старажыл Тадэвуш Журавель, адзін з былых наглядчыкаў капліцы.

Да таго, як вернікі атрымалі ад мясцовых улад гэты будынак ва ўласнае карыстанне, збіраліся на нядзельную малітву ў сваіх дамах. ***“Цягам некалькіх гадоў маліліся і ў нашай хаце. У адным пакоі ксёндз спавядаў, у другім – адпраўляў св. Імшу,*** – узгадвае спадар Журавель. – ***Аднойчы ў нашым простым прыстанку сустракалі шаноўнага госця, біскупа Аляксандра Кашкевіча. Спачатку разам памаліліся, затым з’елі супольны пасілак”.***

У 1930-ых гадах у мястэчку вялася будова касцёла. І святыня была нават амаль завершана. Не хапала толькі даху і крыжа, калі савецкія ўлады забралі будынак у сваю ўласнасць. Спачатку зрабілі з яго склад, пасля – жылы дом. Любчане, дарэчы, засяляюць яго дагэтуль.

У той жа час у мястэчку служылі манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Уршулянак Сэрца Езуса Канаючага. Сёстры размясціліся ў занядбалым Любчанскім замку, паступова прыводзячы ў парадак інтэр’ер палаца і падбадзёрваючы духоўна жыхароў мястэчка. ***“Сёстры сталі сапраўднымі гаспадынямі замка. Пры іх мы мелі асобны пакой, дзе перад Імшой, што адпраўлялася ў замкавай капліцы, пераапраналіся ў падрыхтаваныя заўсёды чыстыя і адпрасаваныя комжы,*** – узгадвае спадар Журавель, які ў той час служыў міністрантам. – ***Ды і гаспадарку сёстры трымалі: гадавалі курэй, свіней. Заўсёды быў дагледжаны сад і агарод. Мелі ў карыстанні 12 гектараў зямлі”.***

Зразумела, плён сваёй працы манахіні ахвяравалі людзям. Яны арганізавалі на замкавай тэрыторыі дзіцячы садок, гімназію. Апекаваліся хворымі, вялі гурток вясковых гаспадынь. Ладзілі летнікі, разлічаныя на некалькі соцень хлопцаў і дзяўчат. На адпачынак у Любчу прыязджалі нават дзеці з Лодзі і Варшавы (Польшча). Акрамя таго, у сясцёр заўсёды мог знайсці прытулак кожны патрабуючы.

На пачатку II Сусветнай вайны манахіні клапаціліся пра ўцекачоў. І хоць адважна сустракалі трывожныя навіны, хуткае наступленне бальшавіцкай улады прымусіла сясцёр пакінуць нашы землі.



Новапабудаваны храм стаў першай за апошнія некалькі соцень гадоў каталіцкай святыняй у Любчы



Мясцовыя парафіяне ў доме спадарства Журавель, дзе вернікі збіраліся на супольную малітву

### БУДАЎНІЦТВА СВЯТЫНІ – СПРАВА СУПОЛЬНАЯ

У 2016 годзе пробашчам навагрудскай і любчанскай парафій быў прызначаны кс. Юрый Жэгарын. Ён адразу прапанаваў мясцовым вернікам адрамантаваць будынак, адведзены пад капліцу. ***“Падахвочаныя энтузіязмам святара, мы запыталі ў яго, ці магчыма пабудаваць новую. У адказ пачулі лаканічнае «трэба падумаць»... І літаральна праз некалькі месяцаў ужо мелі гатовы праект святыні”,*** – распавядае з усмешкай парафіянка Людміла Скобля.

***“Праект рыхтаваў аўтар шматлікіх культавых аб’ектаў, вядомы беларускі архітэктар Аляксандр Базевіч,*** – адзначае кс. Юрый. – ***Трэба сказаць, што першы і вялікі ўклад цалкам належыць любчанскім парафіянам. На праект касцёла яны сабралі сродкі выключна сваімі сіламі”.***

Узвядзенне святыні асабіста для спадарыні Людмілы стала вельмі важнай і радаснай падзеяй. Яна нарадзілася ў Васілішках, дзе з дзяцінства прымала актыўны ўдзел у жыцці парафіі. ***“Накіраваная пасля вучобы ў Любчу, я раптам апынулася ў месцы, дзе не магла нават зазірнуць да Бога,*** – кажа жанчына. – ***Мая маладосць прыпала на складаныя часы, і патрэба ў нябесным суцяшэнні адчувалася востра. Дабрацца да бліжэйшай святыні магчымасці не было...”.***

Верніца доўга жыла з надзеяй на тое, што прыйдзе час і ў мястэчку можна будзе ў любую хвіліну завітаць у дом Пана. Таму калі ў Любчы пачалося будаўніцтва святыні, спадарыня Людміла не шкадавала ні хвіліны вольнага часу, каб дапамагчы ў арганізацыйных справах. ***“Нашы людзі браліся за любую працу. Самастойна разбіралі стары будынак, прыбіралі смецце, прывозілі ваду, кармілі наёмных рабочых, укладваліся фінансава”,*** – распавядае парафіянка.

Увогуле, стварэнне Божага дома – справа агульначалавечая. Ва ўсёй Любчы, у блізкім Навагрудку ніводная просьба аб дапамозе ў будаўніцтве святыні не засталася без водгуку. Ахвярадаўцы знайшліся нават далёка за межамі Беларусі. І хоць гэтая справа спаткала шматлікія цяжкасці, вокамгненнае ўзвядзенне храма гаворыць пра неверагодныя магчымасці запаленых людскіх сэрцаў у спалучэнні, вядома, з Божай дапамогай.

### ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА ВЫТОКАЎ, З ДУМКАЙ ПРА БУДУЧЫНЮ

Для таго, каб парафіяльная супольнасць развівалася, толькі асвяціць святыню недастаткова. Усведамляючы душпастырскую адказнасць, кс. Юрый нястомна генерыруе і працуе над новымі ідэямі. ***“Плануем стварыць парафіяльны хор. Настаўніца з музычнай школы згадзілася ім займацца. Хочам таксама арганізаваць даезд у Любчу з прылеглых вёсак. Вернікі там ёсць, а рэйсавых аўтобусаў няма,*** – дзеліцца святар. – ***Збіраемся праводзіць евангелізацыйны курс для ўсіх ахвотных. У сувязі з ажыятажам вакол будаўніцтва храма ўжо можна заўважыць зацікаўленасць Касцёлам сярод арэлігійных любчан. Мы спадзяёмся на іх прыход”.***

Новапабудаваная святыня носіць тытул Сэрца Пана Езуса і св. Марыі ад Езуса Укрыжаванага (Малой арабкі). Акрамя гэтых апекуноў парафія мае яшчэ адну заступніцу – Маці Божую. Яна клапатліва пазірае з кута святыні ў фігуры, якая захавалася з часоў існавання замкавай капліцы. Нерухомая постаць Найсвяцейшай Панны Марыі нібы нанова сведчыць аб непарушнасці хрысціянскай веры на зямлі, якая стала калыскай каталіцтва ў Беларусі.

*Ангеліна Марцішэўская*

***Рэдакцыя выказвае словы ўдзячнасці сям’і Крапівіных за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу.***



Любчанскі замак (другая палова XVI ст.)

# СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Святы Дух – майстар адзінства, раменік прымірэння, які ўмее знішчаць бар’еры паміж юдэямі і грэкамі, паміж нявольнікамі і свабоднымі, каб учыніць з іх адно цела. Ён будуе супольнасць вернікаў, гарманізуючы цэласнасць цела і шматлікасць яго членаў. Дазваляе Касцёлу расці, дапамагаючы яму перавышаць чалавечыя абмежаванні, грахі і любы разлад.*

*Святы Дух стварае Боскую прыцягальнасць: Ён спакушае нас сваёй любоўю і такім чынам вабіць, каб рухаць наперад гісторыю і запускаць працэсы, праз якія прасочваецца новае жыццё. Толькі Божы Дух мае ўладу зрабіць чалавечнай і братэрскай любую рэчаіснасць, пачынаючы з тых, хто Яго прымае.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 19.06.2019*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Св. Пётр – “скала”, на якой Езус Хрыстус пабудаваў свой Касцёл. Св. Павел – руплівы і адданы справе свайго Настаўніка з Назарэта. [...] Двое гэтых мужчын, хоць адрозніваліся паходжаннем і прафесіяй, былі асабіста пакліканы Збаўцам да абвяшчэння Евангелля. Кожны з іх вёў сваё жыццё, і Бог браў гэта пад увагу, таму пасылаў іх туды, дзе маглі рэалізаваць сябе найлепшым чынам. Гэта падказка для нас – Хрыстос стала патрабуе абвяшчальнікаў Добрай Навіны, патрабуе сведкаў па меры тых дароў, якімі мы былі надзелены.*

*Разнастайнасць з’яўляецца ў Касцёле не перашкодай, а асаблівай каштоўнасцю ў справе евангелізацыі. Паколькі Бог – гэта Таямніца, то ў сваіх задумках Ён можа выкарыстаць нашы таленты неверагодна творчым чынам... Звернем увагу на тое, што людзі, праз гераічнасць веры даведзеныя да святасці, валодалі талентамі, якімі абагачалі жыццё Касцёла ў свой час і якія да сёння з’яўляюцца прыкладам для пераймання.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай падчас св. Імшы з нагоды 150-годдзя асвячэння касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Гожы, 29.06.2019*

### Кс. бп Юзаф Станеўскі



*У хрысціянстве ўсё адбываецца згодна з пакорнай і цярплівай логікай зярнятка пшаніцы, якое памірае, каб даць жыццё – новы ўраджай. Таму праз кансэкраваныя хлеб і віно, у якіх сапраўды прысутныя Цела і Кроў Хрыста, Бог пераменяе нас, робячы падобнымі да сябе... Такім чынам засейваюцца і спеюць на палях гісторыі чалавецтва адзінства і спакой, што з’яўляюцца мэтай, да якой імкнёмся і якой прагнем згодна з Божай задумай.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай ва ўрачыстасць Божага Цела ў гродзенскай катэдры св. Францішка Ксаверыя, 20.06.2019*




◆ Папа Францішак прыняў на аўдыенцыі ў Ватыкане членаў Генеральнага Капітула Ордэна Найсвяцейшай Тройцы, які праходзіў у Рыме (Італія). Сустрэча адбылася ў Клеменційскай зале Апостальскага палаца. Спасылаючыся на тэму сёлетняга Капітула трынітарыяў "Душпастырства моладзі і пакліканняў", Пантыфік адзначыў, што "культура велізарнай пустэчы, выкліканай слабой сістэмай поглядаў і рэлятывізмам, можа прымусіць думаць, што ў новых пакаленнях не засталося месца для паклікання ў веры. Аднак такое заключэнне – сур'ёзная памылка".

◆ Ватыкан падтрымлівае намер Арганізацыі Аб'яднаных Нацый удасканаліць абарону храмаў і іншых рэлігійных аб'ектаў. "У свеце расце адсутнасць цярпімасці, а таксама ўзмацняецца дыскрымінацыя і пераслед людзей за іх веру", – заявіў пастаянны назіральнік Апостальскага Пасада пры ААН абп Бернардыта Ауза. Нагодай да выступлення ватыканскага дыпламата стала сустрэча ў штаб-кватэры ААН у Нью-Ёрку (ЗША) па пытаннях планавання аховы месцаў рэлігійнага культу. Арцыбіскуп падкрэсліў, што павінен быць распрацаваны эфектыўны план дзеянняў, каб імя Бога ніколі не выкарыстоўвалася для апраўдання забойстваў, выгнання, тэрарызму і дамаганняў.

◆ Кангрэгацыя каталіцкай адукацыі абнародавала дакумент пад назвай "Стварыў мужчыну і жанчыну. Шляхам дыялогу адносна гендэрнага пытання ў адукацыі". У ім праводзіцца аналіз гісторыі гендэрнага пытання і прапануецца яго хрысціянска-антрапалагічнае бачанне. Тэкст будзе распаўсюджаны сярод нацыянальных біскупскіх канферэнцый для далейшай перадачы ў каталіцкія адукацыйныя структуры, рэлігійныя інстытуты, асацыяцыі вернікаў, хрысціянскія сем'і і інш.

◆ З даклада Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў вынікае, што ва ўсім свеце налічваецца больш за 70 мільёнаў бежанцаў, перасяленцаў і тых, хто шукае прытулку. Самай шматлікай, 41,3-мільённай групай з'яўляюцца т. зв. унутраныя бежанцы, у межах сваіх родных краін. 20,4 мільёнаў чалавек пакінулі сваю краіну як бежанцы па прычыне войнаў і праследавання. Больш таго, 5,5 мільёнаў асоб знаходзяцца пад мандатам Праграмы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па аказанні дапамогі палестынскім бежанцам на Блізкім Усходзе. І яшчэ 3,5 мільёны чалавек надалей чакаюць рашэння па хадайніцтве аб прадастаўленні прытулку.

◆ Паводле даных арганізацыі "Save the Children", 73 мільёны, г. зн. амаль палова сярод 152-ух мільёнаў працуючых дзяцей ва ўзросце 5–17 гадоў, выконваюць цяжкую і небяспечную працу, якая падвяргае небяспецы іх здароўе і мае сур'ёзныя наступствы для іх псіхікі. 71% з іх працуюць у земляробстве, а астатнія 29% – у сферы абслугоўвання і прамысловасці. Сярод працуючых дзяцей (10% усіх дзяцей у свеце) налічваецца 64 мільёны дзяўчат і 88 мільёнаў хлопцаў.

credo.pro; vaticannews.va; niedziela.pl

# ТОП-10 КАТАЛІЦКІХ ЖАМЧУЖЫН ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

● працяг са с. 1



## КАСЦЁЛ СВ. УЛАДЗІСЛАВА Ў СУБОТНІКАХ

*Святыня ў неагатычным стылі пабудавана ў 1904–1907 гадах на сродкі графа Уладзіслава Умястоўскага і яго жонкі Яніны. У сужэнстве не было дзяцей, і граф вырашыў, што гэта праклён роду, таму задумаў будаўніцтва касцёла. Для фундатара было важна, каб святыня насіла імя якоганебудзь святога, у выніку спыніўся на Уладзіславе Венгерскім, які прынёс хрысціянства ў Венгрыю. Дарэчы, касцёл у Суботніках з'яўляецца адзіным у Беларусі, які носіць імя гэтага святога.*

*У святыні знаходзіцца крыпта з родавай пахавальняй Умястоўскіх і Дунін-Раецкіх, размешчаная пад асноўным алтаром касцёла. Першым у ёй пахавалі заснавальніка – Уладзіслава, а затым туды былі ўнесены парэшткі яго сваякоў. Пра гэта падрабязна паведамляе мемарыяльная дошка, устаноўленая ў 1931 годзе. Толькі на надмагіллі, прызначаным для Яніны (яна прадбачліва паклапацілася пра яго сама), няма ні імя, ні дат: графіня памерла ўдалечыні ад родавага гнязда – у Рыме (Італія). Стваральнікамі некропаля былі майстры са Швецыі.*

*Суботніцкі касцёл – сапраўдны музей, экспанаты якога па вартасці ацаніла б многія мастацтвазнаўцы. Тут ёсць арган, які старэйшы за сам будынак – гэта спадчына ад старажытнага, яшчэ драўлянага касцёла. Таксама не могуць не ўразіць старыя касцёльныя лаўкі, створаныя ў 1884 годзе – на іх сядзелі самі Умястоўскія. Сярод іншых старадаўніх прадметаў – мармуровая купель для хрышчэння немаўлят, скульптуры.*

*Касцёл ужо здалёк зачароўвае прыгожай сілуэтнай графікай: высокая трох'ярусная званіца вылучаецца на фоне неба высокім шпілем. Такой жа "калючай" выглядае цэнтральная брама, убудаваная ў агароджу. Знутры святыню ўпрыгожваюць 3 алтары: галоўны – св. Уладзіслава (калісьці было 54 вотвы), левы бакавы – Маці Божай Ружанцовай з цудадзейным абразом, правы – св. Юрыя.*

## КАСЦЁЛ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ТРОЙЦЫ Ў ГЕРВЯТАХ



*Цудоўная святыня ў неагатычным стылі, якая магла б упрыгожыць любую еўрапейскую сталіцу, пабудавана ў 1899–1903 гадах на сродкі князя Альшэўскага. Як аказалася, месца для яе было абрана не самае ўдалае: грунтавыя воды пастаянна размывалі падмурак касцёла. Каб выправіць сітуацыю, будаўнікам давялося павярнуць рэчышча мясцовай ракі Лошы. А на яе беразе была спецыяльна ўзведзена цагельня, дзе выраблялі будматэрыял высокай якасці (кажуць, у кожную цагліну для моцы дадавалі па курыным яйку). У выніку на самым высокім месцы Гервятаў вырас адзін з найвышэйшых храмаў Беларусі: вышыня званіцы складае 61 метр. Шпіль вянчае крыж, які знізу здаецца зусім невялікім, але на самой справе ён 6-метровы. Касцёл дзівіць багаццем гатычных элементаў, за што яго часта параўноўваюць з саборам Парыжскай Божай Маці і Кёльнскім саборам.*

*Унутранае ўбранне святыні з'яўляецца выдатным працягам яе знешняга аблічча: выглядае строга і светла. Тым не менш, у аздабленні інтэр'ера маюцца ўнікальныя і складаныя элементы. Напрыклад, на высокім майстэрскім узроўні выкананы металічныя каваныя дэталі, вітражы з каляровага шкла, драўляныя статуі, крыжы. А цэнтральныя ўваходныя металічныя вароты – гэта сапраўдны твор мастацтва.*

*Колькі ж часу адвесці на наведванне гэтага касцёла? 10-15 хвілін хопіць, каб хутка прабегчыся вакол і зрабіць некалькі фотаздымкаў святыні і скульптур 12-ці апосталаў, гадзіну – каб пабываць на службе і паслухаць гукі аргана. І больш за палову дня можа спатрэбіцца, каб палюбавацца зялёнінай у дэндрарыі (тут больш за 2 тысячы відаў раслін).*



## КАСЦЁЛ СВСВ. АПОСТАЛАЎ ПЯТРА І ПАЎЛА Ў СТАРЫХ ВАСІЛІШКАХ

*Узведзены ў 1897–1903 гадах па праекце польскага архітэктара Канстанціна Вайцяхоўскага. Фундавала будову святыні шмат людзей, у тым ліку яўрэйскага паходжання. Аб гэтым сведчаць выявы шасціканечнай зоркі на кожнай з граней вежаў і імёны, выгравіраваныя на плітах падмурка касцёла.*

*Мастацкая выразнасць інтэр'ера храма дасягаецца дзякуючы выкарыстанню элементаў керамікі, чаканкі, разьбы па дрэве. Унутраная прастора раздзелена магутнымі слупамі на 3 нефы і накрыта высокімі стральчатымі скляпеннямі. На міжнефавых слупах устаноўлены скульптуры апосталаў. На бакавых барэльефных карцінах-пано паказаны Крыжовы шлях Хрыста. Сюжэты з жыцця Збаўцы, а таксама апосталаў Пятра і Паўла адлюстроўваюць вітражы, зробленыя на рэнесансны манер. Асаблівую ўвагу прыцягваюць бакавыя нішы. У іх створаны штучныя пячоры з экспазіцыяй прывітання вешчунамі нараджэння Хрыста. Такіх пячор няма больш нідзе ў Беларусі.*

*Апрача іншага, касцёл у Старых Васілішках вядомы тым, што ў ім спяваў у дзяцінстве сусветна вядомы музыкант Чэслаў Немэн (Выдржыцкі), а яго бацька іграў там на аргане. Гэты інструмент быў перанесены ў сучасны касцёл з ранейшага драўлянага. Існуе меркаванне, што яго вырабам займаліся нямецкія спецыялісты з гамбургскай майстэрні Фрыдрыха Самуэля Янтцона.*

## КАСЦЁЛ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ТРОЙЦЫ Ў ІШЧОЛНЕ



*Святыня ў стылі позняга барока пабудавана ў 1758 годзе дзякуючы намаганням гарадзенскага харужага Іосіфа Вала. Стаіць на вялікім склепе, дзе ляжаць парэшткі практычна ўсіх уладальнікаў Ішчолна з XVI стагоддзя. Прама перад уваходам у касцёл размешчаны 2 магільныя пліты. Надпісы на іх сцёртыя, таму разабраць, хто пад імі пахаваны, немагчыма. Аднак існуе мясцовае паданне, што тут некалі жыў ганарысты шляхціц, які на схіле жыцця ўсвядоміў: быў несправядлівы да людзей. І таму завяшчаў пахаваць яго перад уваходам у касцёл, каб кожны, хто будзе ісці, таптаў яго гонар.*

*Падчас паўстання 1863 года ў касцёле служыў кс. Адам Фалькоўскі. Тут, з кафедры, ён агучыў для парафіян Маніфест народнага ўрада. Па даносе аднаго з жыхароў святар быў арыштаваны і расстраляны ў Лідзе. У знак яго адыходу ў касцёле білі ўсе 3 званы без прыпынку.*

*Знутры храм вылучаецца барочным алтаром, упрыгожаным ляпнінай і карынфскімі калонамі. Захаваўся тут і старадаўні арган на 9 галасоў.*

*Асаблівую цікавасць уяўляе сабой сонечны гадзіннік, які знаходзіцца на каменным пастаменце ў паўднёвай частцы касцёльнага двара. Ён быў зроблены ў XVIII стагоддзі віленскім майстрам Малецкім. Паказваў час вельмі дакладна дзякуючы таму, што пры стварэнні ўлічвалася шырата, на якой ён будзе выкарыстоўвацца. Гадзіннік цалкам захаваўся, за выключэннем стрэлачак на цыферблаце. Замест іх сучасны майстар паставіў драўляную дэталь, але яна паказвае час толькі прыблізна.*



## КАСЦЁЛ УНЕБАЎЗЯЦЦЯ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ПАННЫ МАРЫІ Ў ЖАЛУДКУ

*Пабудаваны ў 1854 годзе з выкарыстаннем бутавага каменю ў стылі позняга класіцызму. Фасад і прылеглая тэрыторыя ўпрыгожаны мноствам скульптурных кампазіцый і ляпнінай, што на тыя часы было невымоўнай раскошай. Праект святыні распрацаваны архітэктарам Каралем Падчашынскім.*

*Касцёл мае трохвугольны франтон на галоўным фасадзе, вуглы якога ўвенчваюць скульптурыпінаклі. Уваход аформлены амаль абавязковым для класіцыстычнай эстэтыкі масіўным чатырохкалонным порцікам, да якога вядзе шырокая лесвіца. На паўднёвай сцяне побач з уваходам знаходзіцца старадаўні сонечны гадзіннік.*

*Унутраная прастора святыні нагадвае ўрачыстую залу. Пад алтаром размешчана крыпта з пахаваннямі. Адной з найбольш знакамітых асоб, што спачываюць у тым мецы, з'яўляецца Антоній Тызенгаўз – выдатны рэфарматар і мецэнат, гродзенскі староста.*

## ФАРНЫ КАСЦЁЛ ПЕРАМЯНЕННЯ ПАНА Ў НАВАГРУДКУ



*Храм быў закладзены, як мяркуюць, у 1395 годзе князем Вітаўтам на месцы паганскага капішча. Ён доўгі час быў драўляным. Толькі ў першай палове XVII стагоддзя пры касцёле з'явіліся 2 мураваныя капліцы. У 1422 годзе ў святыні адбыўся шлюб караля Польшчы Уладзіслава II (Ягайлы) і князёўны Соф'і Гальшанскай.*

*З правага боку касцёла ў адной з капліц знаходзіцца цудоўны абраз Маці Божай Навагрудскай. На ім прадстаўлена Марыя з Дзіцяткам Езус. Найсвяцейшыя постаці ўпрыгожвае сярэбраная сукенка і 2 кароны. Абраз Багародзіцы паходзіць прыкладна з першай паловы XVIII стагоддзя. Праўдападобна, перад ім адбылося цудоўнае ацаленне маленькага Адама Міцкевіча пасля таго, як той упаў і вельмі моцна пабіўся (ужо ніхто не верыў, што дзіця будзе жыць). Хлопчык апрытомнеў перад абразом Маці Божай, калі яго, амаль нежывога, прынеслі ў касцёл, скарыстаўшы апошнюю надзею.*

*У святыні знаходзіцца саркафаг з парэшткамі 11-ці бласлаўлёных сясцёр назарэтанак з Навагрудка, расстраляных немцамі падчас II Сусветнай вайны. Таксама ў храме можна ўбачыць мармуровы барэльеф у памяць аб навагрудскіх рыцарах, якія загінулі ў бітве з туркамі пад Хоцінам у 1621 годзе.*

## КАСЦЁЛ СВ. МІХАЛА АРХАНЁЛА Ў МІХАЛІШКАХ



*Узведзены айцамі аўгустынцамі ў 1653 годзе паводле праекта віленскага архітэктара Крыштафа Пенса. За ўнутраны выгляд святыні адказвалі італьянскія майстры на чале з П'етра Перці. Касцёл стаў першым будынкам на тэрыторыі сучаснай Беларусі, пабудаваным у стылі сармацкага барока.*

*Святыню вылучае багаты дэкор, які складаецца з разьбы, барэльефа і моцна разбудаванага арнаменту, што, як карункі, накінутыя на сцены, злучаюць дэкарацыі ў адно пластычнае цэлае. Сцены касцёла ўпрыгожваюць 8 бакавых алтароў. Галоўны алтар мураваны, аздоблены абразом св. Міхала Арханёла з калонамі і скульптурнымі выявамі біскупаў і анёлаў. Бясцэнную вартасць мае драўляны амбон са змешчаным над ім балдахінам у форме кароны, упрыгожаным раслінным арнаментам. Выключную прыгажосць і мастацкую вартасць святыні надае выканаы барэльеф са скульптурнымі постацямі 12-ці апосталаў.*

*У тыльнай частцы касцёла знаходзяцца 2 капліцы: Укрыжавання Пана Езуса і св. Юзафа са старажытным абразом, выкананым на палатне. Таксама захаваліся 2 драўляныя пазалочаныя арлы, на плячах якіх раней трымалася трунка з рэліківаямі святых, запламбаваная біскупскімі пячаткамі. У цяперашні час след трункі знік.*

*У падзямеллі касцёла знаходзяцца 2 пахавальныя крыпты з трунамі памерлых прадстаўнікоў графскага роду Бжастоўскіх, фундатараў святыні, і асабліва заслужаных парафіян.*

## КАСЦЁЛ СВ. МІХАЛА АРХАНЁЛА Ў БЕЛАГРУДЗЕ



*Святыня ў эклектычным стылі, дзе рысы неараманікі спалучаюцца з рысамі неаготыкі і мадэрну, пабудавана ў 1908 годзе. З канца XIX стагоддзя да парафіі далучалася могілкавая капліца. У ёй у 1933 годзе быў знойдзены клад касцёльных медальёнаў-памятак.*

*Інтэр'ер святыні ўпрыгожваюць 5 алтароў. Галоўны алтар двух'ярусны. У цэнтры першага яруса знаходзіцца абраз Маці Божай Міласэрнасці, вядомы з канца XVIII стагоддзя. Ён праславіўся як цудадзейны, упрыгожаны шматлікімі вотамі. У нішах размешчаны фігуры св. Мікалая і св. Казіміра. Над першым ярусам усталяваны 4 фігуры анёлаў. Левы бакавы алтар прысвечаны Божай Міласэрнасці, правы – св. Міхалу Арханёлу. Унутраная прастора касцёла (асабліва скляпенні) размалявана раслінным арнаментам у стылі мадэрн.*

*Над уваходам на 2 калоны абапіраюцца арганныя хоры, якія асвятляе акно-ружа. За касцёлам, сярод могілак, захавалася драўляная двух'ярусная брама-званіца ад комплексу папярэдняга драўлянага храма.*

## КАСЦЁЛ СВ. КАЗІМІРА Ў ЛІПНІШКАХ



*Святыня ў неагатычным стылі ўяўляе сабой велічны будынак, вежа якога імкнецца ўвысь. Касцёл з граніту і цэглы ўзнесены ў 1927 годзе. Сродкі і лес на будаўніцтва былі выдзелены ўладальнікам мястэчка Аляксандрам Вольскім. Грошы збіралі таксама парафіяне. Вядома, што з кожнага двара ахвяравалася сума, роўная кошту каровы.*

*Будаўнічыя работы вяліся ў асноўным летам. Камяні вазілі коньмі і валамі з палёў. Ёсць звесткі, што частку прывезлі з руін геранёнскага замка. Пры ўзвядзенні святыні выкарыстоўвалі цэмент вышэйшага гатунку (фіялетавага колеру). У раствор дадавалі прасеяны пясок, а для моцы – курыныя яйкі. Камяні абсякалі ўручную. Калі ўзводзілі вежу, для іх падачы пабудавалі насціл, па якім коні падымалі будаўнічы матэрыял наверх.*

*Над галоўным фасадам касцёла ўзвышаецца васьміграная вежа з вострым шпілем. Яе галоўны "разынкай" з'яўляюцца люкарны – невялікія аконныя праёмы, убудаваныя ў схіл даху. Сцены святыні аздоблены каменнымі глыбамі. Унутраную прастору ўпрыгожваюць 3 драўляныя неагатычныя алтары: галоўны, тытульны – св. Казіміра, левы бакавы – Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса (наверсе змешчаны абраз св. Ганны) і правы – Маці Божай Шкаплернай (з абразом Маці Божай Добрай Рады наверсе).*

## КАСЦЁЛ СВ. МІКАЛАЯ Ў ГЕРАНЁНАХ



*Каменная святыня пабудавана на сродкі віленскага ваяводы Альбрэхта Гаштольда ў 1529 годзе. Праз некалькі гадоў там адбыўся шлюб яго сына Станіслава Гаштольда і Барбары Радзівіл.*

*У сярэдзіне XVIII стагоддзя храм згарэў у вялікім пажары. З 1771 па 1779 год ішла яго рэканструкцыя і перабудова ў стылі позняга барока. Гэта адбывалася і на працягу наступных стагоддзяў. У выніку святыня наглядна ілюструе пераход ад барока да класіцызму, гарманічна спалучаючы ў сабе рысы абодвух стыляў.*

*У касцёле размешчаны 3 мураваныя двух'ярусныя алтары ў стылі барока і 1 драўляны ў стылі эклектыкі. Галоўны алтар Найсвяцейшай Тройцы са змешчаным у цэнтры абразом Пана Езуса ўпрыгожаны калонамі карынфскага ордэра і дэкараваны паліхромнай скульптурай, гарэльефнымі кампазіцыямі і жывапісам. У інтэркалумніях усталяваны фігуры святых апосталаў Пятра і Паўла, у другім ярусе змешчаны тытульны абраз св. Мікалая. Левы бакавы алтар прысвечаны св. Юзафу (наверсе – абраз св. Францішка з Асізі), правы – Маці Божай Чанстахоўскай (наверсе – абраз св. Казіміра). У капліцы змешчаны алтар Укрыжавання.*

*Сюжэтныя і арнаментальныя размалёўкі сцен і арачных праёмаў выкананы ў 1934 годзе ў стылі "другога ракако". На хорах усталяваны велічны арган, упрыгожаны разьбянай фігурай Давіда з гуслямі ў акружэнні анёлаў.*

## НЯХАЙ БОГ БЛАСЛАВІЦЬ НА ЦІКАВЫЯ ПАДАРОЖЖЫ! ДОБРАГА НАСТРОЮ І НАСЫЧАНЫХ ЛЕТНІХ ДЗЁН!

*Кінга Красіцкая*







### Ватыўныя свечкі ў Будславе

**Удзельнікам сёлетніх урачыстасцей у Нацыянальным санктуарыі Маці Божай Будслаўскай прапануецца запаліць "ватыўныя свечкі".**

Са свечкай у выглядзе ватыўнага сэрца можна будзе прайсці ў традыцыйнай працэсіі, з якой пачынаецца св. Імша апоўначы. Яе таксама можна набыць у якасці рэлігійнага сувеніра і запальваць у доме падчас малітвы на знак духоўнай апекі Маці Божай.

Воск для свечак нарыхтоўвалі пчаляры з розных куткоў Беларусі, у тым ліку і з ваколіц Будслава, а формы для адліўкі зрабіў сам мясцовы пробашч кс. Дзмітрый Дубовік. Набываючы такую свечку, вернік ахвяруе сродкі на аднаўленне і ўтрыманне будслаўскай святыні.




### Новая святыня на Мадагаскары

**Касцёл і школу ў краіне пабудуе Шчэцінска-Каменская архідыяцэзія (Польшча) як вотум удзячнасці за надыходзячае 50-годдзе свайго заснавання.**

Як адзначыў дырэктар Папскіх місійных таварыстваў кс. д-р Павел Плачэк, акцыя падтрымае айцоў аблатаў, якія ўжо на працягу 30-ці гадоў служаць сярод убогіх у Афрыцы. "Гэта будзе дар сэрца і адначасова вяртанне годнасці дзецям, якія жывуць у Касцёле першай евангелізацыі", – падкрэсліў святар.

Кансэкрацыя касцёла і адкрыццё будынка школы плануецца на 2022 год.




### Пакаранне за вытрымку з Бібліі

**Вядомы аўстралійскі рэгбіст Ізраэль Фолау асуджаны за цытаванне Святога Пісання на сваёй старонцы ў Instagram.**

Спартсмен размясціў у сацыяльнай сетцы наступную цытату: "ні распуснікі, ні ідалапаклоннікі, ні чужаложнікі, ні блуднікі, ні мужаложнікі, ні злодзеі, ні хціўцы, ні п'яніцы, ні паклёпнікі, ні рабаўнікі не атрымаюць у спадчыну Валадарства Божае" (1 Кар 6, 9–10). З-за гэтага вядучы рэгбіст страціў 4-гадовы кантракт з "Rugby Australia" на некалькі мільёнаў долараў. Кіраўніцтва прафсаюза вырашыла пакараць яго нібыта за парушэнне стандартаў паводзін.

Такі прысуд выклікаў бурную дыскусію ў Аўстраліі. Большасць жыхароў краіны выступілі супраць пакарання спартсмена. Сам рэгбіст ужо падаў іскавую заяву ў суд.



## Ці можна рабіць знак крыжа левай рукой?

*Касцёл заўсёды лічыў правы бок сімвалічна важным. Таму мы таксама чынім знак крыжа правай рукой. Пачынаем рабіць гэты жэст ад галавы да грудзей, прызнаючы, што наш Госпад Хрыстос праз сваё ўцелаўленне сышоў на зямлю зверху, г. зн. ад Айца. Працягваем знак крыжа злева, ад сэрца – месца, дзе з любоўю захоўваем Велікодную таямніцу Езуса (Яго вялікія пакуты і смерць) – направа, успамінаючы, што Езус сядзіць праваруч Айца ў сваёй славе Уваскрасення.*

*Ці абавязкова рабіць знак крыжа менавіта правай рукой? Так. Мы не маем права змяняць, адмаўляць або крытыкаваць, згодна з нашым бачаннем, хрысціянскую традыцыю, што мае свой глыбокі пачатак. Таксама і ў грамадскім жыцці існуюць т. зв. "пратаколы", якія мы паважаем, нават калі не ведаем іх паходжання або значэння. Напрыклад, вітаючы кагосьці, падаём правую руку, а не левую.*

*У рэлігійным жыцці адбываецца нешта падобнае. Такім чынам, святар раздае Камунію правай рукой, нават калі ён ляўша. Не забаронена і не з'яўляецца грахом падаць Камунію левай рукой, аднак гаворка пра прыкмету добрай літургічнай фармацыі.*

*Калі вернік разумее, чым быў крыж у жыцці Езуса і чым ён ёсць у справе яго асабістага збаўлення; калі памятае, што на крыжы Збаўца палюбіў людзей да канца; калі робіць знак крыжа свядома, то накіроўвае сваё жыццё ў добры бок, таму што насіць крыж – гэта тое, пра што просіць Хрыстос, калі хочам Яго наследаваць.*

*Кс. Генры Варгас Холгін*
***Паводле aleteia.org***



### З Богам праз штодзённасць

# Малітва любячай увагі

Рахунак сумлення, аб якім размова была мінулым разам, не абмяжоўваецца адной формай. Мы ўжо пагаварылі аб праглядзе дня, а сёння бліжэй пазнаёмімся з малітвай любячай увагі.

Спачатку трэба адзначыць, што ігнацыянскі падыход да выкарыстання тых ці іншых малітоўных практык характарызуецца гнуткасцю. Гэта значыць, што св. Ігнацый, даючы нам пэўныя духоўныя парады, па сутнасці прапануе інструменты для творчага ўжывання ў канкрэтных умовах і жыццёвых сітуацыях.

Каб знайсці свой спосаб і форму рахунку сумлення, патрэбны ўважлівасць і ўсведамленне мэты ўласнага шляху. Уявім сябе кіроўцамі на незнаёмай – а натхненні Духа часта кіруюць у невядомыя мясціны – дарозе, якая павінна прывесці да мэты. Мы нібыта ведаем маршрут, але па нейкіх прычынах прапускаем важны паварот і вымушаны доўга шукаць, як вярнуцца на патрэбнае скрыжаванне.

Ці той кірунак, у якім мы рухаемся па жыццёвым шляху, набліжае нас да Бога? Ці вядзе да глыбейшай веры, надзеі, любові? Можа, пара спыніцца і паразважаць над гэтым?

Умець затрымацца ў наш час не так проста і ўсё ж вельмі патрэбна. Прычым рабіць паўзы можна не толькі ўвечары перад сном, але і цягам дня, хаця б на 5 хвілін, каб агледзецца навокал і паслухаць сваё сэрца – найлепшы духоўны "навігатар". "Цэнтрам чалавека, паводле Бібліі, з'яўляецца сэрца, у якім сустракаюцца ўсе яго вымярэнні: цела і дух; глыбіня асобы і яе адкрыццё на свет і іншых; розум, воля і пачуцці. Вось жа, калі сэрца здольнае яднаць гэтыя вымярэнні, то дзеецца так таму, што яно з'яўляецца месцам, дзе мы адкрываемся на праўду і любоў і дазваляем, каб яны ў глыбіні закранулі нас і перамянілі" (Францішак, Lumen Fidei).

Інтанацыі любові непаўторныя для кожнай асобы. Але вельмі часта мы не заўважаем, якім чынам праяўляе Бог аб "любові і праўдзе", бо нашы слабасці абмяжоўваюць зрок. Таму ў малітве любячай увагі тройчы звяртаемся з просьбай аб святле. "Пане, пакажы мне…". Дары, ласкі, даброты, але не толькі: недахопы, памылкі, правіны. Аднак і гэта не ўсё – просім падказаць, як выправіць крыўды, аднавіць сувязі, даць рады з цярпеннем, мацней любіць Бога і бліжніх.

Не лішнім будзе падкрэсліць, што ў першую чаргу мы шукаем, за што падзякаваць Богу. Вядома, спадзяёмся знайсці вышэй у складаных сітуацыях. Але малітва з'яўляецца цудоўнай магчымасцю проста падзякаваць за тое, што ўсё ідзе добра! Нагод для гэтага сапраўды шмат. Таму ўсё ж такі не страх павінен прымушаць нас затрымлівацца, але любоў. Гэта яна імкнецца заўважыць і ўшанаваць кожную праяву Божай міласці і праўды.

А. Уільям Ламберт SJ, аўтар кніг па ігнацыянскай духоўнасці, прапануе наступную траістую схему для малітвы любячай увагі:

**1. Просьба** да Бога аб здольнасці заўважыць і прыняць Яго дары.
**Позірк** на дары.
**Падзяка** за ўсе даброты і ласкі, якія заўважыў.

**2. Просьба** да Бога аб усведамленні сваіх грахоў і вызваленні ад іх.
**Позірк** на грахі.
**Падзяка** за прабачальнае Божае вызваленне; жаль за грахі.

**3. Просьба** да Бога аб адшуканні новых шляхоў хрысціянскага жыцця.
**Позірк** на магчымасці ўзрастання ва ўнутранай свабодзе, якая з'яўляецца ўмовай змены паводзін.
**Падзяка** ў малітве, поўнай надзеі на Божую дапамогу.

*На завяршэнне можна памаліцца "Ойча наш…".*

Гэтую траістасць, памножаную на 3, лёгка запомніць і трымаць у галаве, стомленай ці легкадумнай, а таксама тады, калі вернік па-чуцці або наступаюць перыяды прыгнечанасці і сухасці. Ёсць розніца паміж самотным "пракручваннем" перажыванняў, сумневаў, трывог і праглядам іх у Божай прысутнасці. Просьба прасвятліць нашы вочы дае магчымасць убачыць праўду і змяніць згубны накірунак, навучыцца пакоры і радаснай удзячнасці.

Кожнаму з нас вельмі важна, а нават жыццёва неабходна, трапіць у дом Айца, дзе мы – доўгачаканыя любімыя дзеці. Божы позірк суправаджае нас, Яго рука дапамагае рухацца наперад. Але калі не будзем звяртаць на Яго ніякай увагі, то не навучымся адрозніваць добрыя накірункі ад благіх і будзем губляць каштоўны час, выбіраючыся з чарговай калатнечы. Езус Хрыстус называе дарогай сябе (параўн. Ян 14, 6). Няхай жа малітва любячай увагі дапамагае нам знаходзіць Яго як мага хутчэй і трымацца як мага бліжэй!

*Тэрэса Клімовіч*

# Адпачыць у Пану

***Апошнім часам шмат гаворыцца пра адпачынак. Многія адчуваюць стомленасць і з замілаваннем думаюць, куды выберуцца ў вольныя дні. Летам гэтая тэма асабліва актуальная, паколькі распачаўся сезон доўгачаканых водпускаў і канікул. Што наконт адпачынку гаворыцца ў Бібліі?***

Ізраільцяне здаўна пераймаюць рытм стварэння свету Богам, апісанне якога было дакладна пададзена на старонках Старога Запавету (параўн. Быц 1, 1–2, 4а). Пан працаваў на працягу 6-ці дзён: спачатку дзяліў неба і зямлю, ваду і сушу, каб пазней напоўніць усё гэта жывым стварэннем, такім чынам рыхтуючы свет для чалавека, які павінен быў у ім пасяліцца. "Бог скончыў на шосты дзень усю працу сваю, над якой працаваў, а на сёмы дзень адпачыў пасля ўсяго, што зрабіў" (Быц 2, 2). Выбраны народ таксама працаваў 6 дзён у тыдні, а на 7-мы святкаваў шабат – вольны ад усякага высілку дзень.

У старажытнасці нават язычнікі давалі нявольнікам і жывёлам магчымасць даўжэй пасвіцца і адпачыць, каб набрацца сіл на далейшую цяжкую працу. Ізраільцяне, адзначаючы апошні дзень тыдня асаблівым чынам, так выказвалі перакананасць, што чалавек павінен мець акрэслены час, каб прыгадаць сабе, кім на самой справе з'яўляецца і які сэнс маюць яго жыццё і намаганні.

Далей у Бібліі чытаем: "Тады Бог благаславіў гэты сёмы дзень і учыніў яго святым; таму што ў гэты дзень Ён адпачыў пасля ўсёй сваёй працы, якую зрабіў, ствараючы" (Быц 2, 3). Гэтая святасць з'яўляецца розніцай, у якой выяўляецца жыццядайная прысутнасць Усемагутнага ў свеце. Людзі, якія захоўвалі шабат, такім чынам пераймалі Найвышэйшага і былі асвечаны (параўн. Эз 20, 12), дэманструючы, што з'яўляюцца Божымі дзецьмі. Такі адпачынак спрыяў раскрыццю вобраза Усемагутнага ў Яго стварэнні і разам з тым адкрыццю і ўмацаванню пачуцця чалавечай тоеснасці і годнасці. Іншым словам, гаворка ідзе аб поўным удзячнасці і радасці праслаўленні Бога, дзякуючы якому асоба "знаходзіць у Пану сваю асалоду" (параўн. Іс 58, 14).

Шабат, а таксама найважнейшыя ўрачыстасці Ізраэля прыгадваюць, што Пан вызваліў выбраны народ з няволі, у якой ён быў вымушаны шмат і цяжка працаваць (параўн. Зых 20, 8; Дрг 5, 6). У хрысціянстве ўдзячнасць за выратаванне з Егіпта атрымлівае новае вымярэнне, паколькі першая Пасха становіцца вобразам паўнаты духоўнага вызвалення, якое здзейсніў Хрыстос. "Божы адпачынак", прадугледжаны для ізраільцян пасля ўваходу ў абяцаную зямлю, аказаўся прадказаннем і прадчуваннем перадышкі для тых, хто верыць у Пана Езуса, перажытага праз перамяняючае дзеянне веры і сакрамантаў.

У Новым Запавеце Хрыстос выразна падкрэсліў глыбінны сэнс штотыднёвага адпачынку: "Шабат устаноўлены для чалавека, а не чалавек для шабату" (Мк 2, 27). Як сцвярджаў св. Ян Павел ІІ, "адпачынак з'яўляецца святой справай, таму што дазваляе чалавеку вырвацца з рытму зямных заняткаў, якія часам поўнасцю яго паглынаюць, і нанова ўсвядоміць, што ўсё з'яўляецца Божым стварэннем". Такім чынам, вольны ад працы дзень павінен спрыяць вызваленню чалавека ад разнастайных абмежаванняў і прывязанасцей, памнажэнню дзеянняў, якія выходзяць за межы штодзённых і звычайных.

Парадаксальна, адпачынак і дзеянне заўсёды патрабуюць адзін аднаго і ўзаемна падтрымліваюцца, паперамена пацвярджаючы паходжанне і прызначэнне чалавека. Падобна як фізічная ці разумовая праца, вольны час павінен заключацца ў выкананні спраў на карысць бліжнім і ўсяму свету, а таму палягаць на аказанні іншым дабрыні, спачування і зычлівасці.

Аўтарытэт Божага Сына ўчыніў, што ўжо першае пакаленне вызнаўцаў Езуса замест шабату пачало святкаваць нядзелю – на ўспамін Уваскрасення. Хрысціянскі адпачынак стаў знакам Божай магутнасці, на моцы якой Хрыстос уваскрос з памерлых, стаў урачыстым напамінам аб дабрыні Стварыцеля, аб'яўленай у справе збаўлення. Гэты сэнс павінен прасякнуць жыццё вернікаў, прыгадваючы, што "іхнія справы ідуць за імі" (Ап 14, 13).

Адпачынак, у поўным значэнні гэтага слова, з'яўляецца рэчаіснасцю, якой з даверам і вялікай надзеяй мы ўсе чакаем і якая павінна надысці, калі сустрэнемся з Найвышэйшым тварам у твар у Нябесным Валадарстве. У пэўнай меры гэта будуць нашы канікулы, якія, з іншага боку, стануць вечнай працай. Але тая праца не будзе стамляць, а толькі прыносіць задавальненне і радасць. Яна стане ўрачыстым святкаваннем, у якім будзем цешыцца паўнатой жыцця.

*Апрацаваў*
*кс. Юрый Марціновіч*

## НАВІНЫ



# УРАЧЫСТАСЦЬ БОЖАГА ЦЕЛА

Ва ўрачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Езуса Хрыста ў Паўсюдным Касцёле асаблівым чынам ушаноўваецца Збаўца ў Эўхарыстыі. З гэтай нагоды ва ўсіх святынях Гродзенскай дыяцэзіі былі адпраўлены ўрачыстыя св. Імшы, пасля якіх вернікі вырушылі ў працэсіях вуліцамі сваіх мясцовасцей, каб даць выразнае сведчанне любові да Хрыста і веры ў Яго безумоўную прысутнасць у Найсвяцейшым Сакраманце.

Цэнтральныя ўрачыстасці Божага Цела адбыліся ў Гродне. Св. Імшу з удзелам духавенства і вернікаў усіх парафій горада ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Падчас літургіі іерарх адзначыў, што ў гэты дзень кожны католік павінен у чарговы раз усвядоміць, што "Езус сам прыходзіць да чалавека, становіцца побач і хоча быць яго Праваднікам". Пастыр Касцёла на Гродзеншчыне заахвоціў прысутных да свядомага і актыўнага ўдзелу ў нядзельнай і святочнай Эўхарыстыі, каб нябесны спажытак, які з верай і жаданнем прымаем, набліжаў да Хрыста і прыпадобніваў сэрцы да Яго Найсвяцейшага Сэрца.

Пасля св. Імшы ўжо традыцыйным маршрутам вуліцамі горада вырушыла эўхарыстычная працэсія. Яна спынялася ля 4-ох алтароў, якія былі падрыхтаваны ля катэдральнага, пабрыгіцкага, пабернардынскага і францішканскага касцёлаў. Перад кожным алтаром вернікі дзякавалі Пану Богу за Яго прысутнасць у штодзённай рэчаіснасці, перапрашалі за грэх занядбання ў сваім жыцці і прасілі аб блаславенні на далейшае крочанне дарогамі веры. Шэсце тысяч католікаў засведчыла аб іх свядомым выбары Езуса Хрыста Валадаром жыцця. Яно паказала, што Касцёл у горадзе над Нёманам жывы і дынамічны, вернікі маюць патрэбу ў Богу, які дае ім усяго сябе ў сакраманце Эўхарыстыі.

## БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч наведаў касцёл Адшукання Святога Крыжа ў Гродне ў адпустовую ўрачыстасць у гонар св. Антонія Падуанскага. У той жа дзень адпустовую св. Імшу ў гродзенскай пабернардынскай святыні адправіў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, які ў вігілію ўрачыстасці наведаў сваю родную парафію св. Антонія ў Адэльску (дэканат Гродна-Захад).

Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі ўзначаліў адпустовыя ўрачыстасці ў парафіі св. Антонія Падуанскага ў Малой Бераставіцы.

## ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



У Дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях (дэканат Радунь) прайшла сустрэча членаў Апостальства вечнай малітвы за святароў "Маргарытка". На яе прыбылі больш за 350 чалавек з розных мясцоў Гродзенскай дыяцэзіі. У межах сустрэчы адбылася канферэнцыя, адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту і св. Імша, якую ўзначаліў кс. бп Юзаф Станеўскі.

На традыцыйным начным чуванні ў Тракелях сабраліся члены Францішканскага ордэна свецкіх. Яны прыбылі з розных куткоў Беларусі, галоўным чынам з Гродзенскай дыяцэзіі.

## АДНЫМ РАДКОМ

• Кс. бп Аляксандр Кашкевіч прыняў удзел у святкаванні юбілею біскупскай сакры кс. б-па Антонія Дыдыча ў Драгічыне (Польшча). • У XI Парафіядзе дзяцей і моладзі Гродзенскай дыяцэзіі ў чарговы раз перамаглі маладзёны з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Росі (дэканат Ваўкавыск). • Святыя місіі прайшлі ў парафіях у Каменцы і Дзембраве (дэканат Шчучын). • На адпустовыя ўрачыстасці ў гонар св. Антонія Падуанскага ў Адэльск вырушыла першая пешая пілігрымка з Гродна. • Адпустовыя ўрачыстасці ў гонар Найсвяцейшай Тройцы ў Гервятах (дэканат Астравец) узначаліў дапаможны біскуп Віленскай архідыяцэзіі Арунас Панішкайціс. • Біскуп Пінскі Антоній Дзям'янка ўзначаліў урачыстасць 30-годдзя з часу вяртання святыні ў Дварцы (дэканат Дзятлава). • Інсцэніроўку пра св. Юзафа прадставілі ў Сапоцкіне. • Душпастырства "OPEN" зладзіла свята для дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі. • Вядомы рэкалекцыяніст з Польшчы кс. Ян Рэчэк правёў рэкалекцыі ў парафіі Рось. • 10 выпускнікоў Тэалагічнага каледжа імя св. Казіміра ў Гродне атрымалі дыпломы.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by.***

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**30 чэрвеня 1994 г.** – кс. Станіслаў Петраш SchP, *проб. Крамяніца;*

**13 ліпеня 1942 г.** – а. Дыянізій Клімчак OFMConv., *проб. Гродна.*

## АНОНСЫ

## ТЭАЛАГІЧНЫ КАЛЕДЖ СВ. КАЗІМІРА Ў ГРОДНЕ АБ'ЯЎЛЯЕ НАБОР НАВУЧЭНЦАЎ НА 2019/2020 НАВУЧАЛЬНЫ ГОД

**Сярод галоўных мэт адукацыйнай установы – умацаванне веры, паглыбленне рэлігійных ведаў і падрыхтоўка спецыялістаў для катэхетычнай працы.**

Дакументы для паступлення прымаюцца пасля папярэдняга запісу з 15 ліпеня да 21 жніўня кожны панядзелак з 10.00 да 12.00 у біскупскай курыі па адрасе: г. Гродна, вул. К. Маркса, 4. Дакументы падаюцца асабіста. Уступны экзамен – 21 жніўня ў 11.00.

*Папярэдні запіс адбываецца па тэлефонах: (8 029) 887-71-05, (8 0152) 75-33-08 – або праз электронную пошту: kaledz.tealagiczny@gmail.com.*

**Інфармацыя для абітурыентаў**

Навучанне ў каледжы працягваецца 3 гады (з верасня па чэрвень).

Форма навучання – завочная. Заняткі праводзяцца ў 2-ую і 4-ую суботы і нядзелі месяца.

Пасля заканчэння каледжа выпускнікі атрымліваюць дыплом ад біскупа, а таксама могуць працягваць навучанне ў каталіцкіх ВНУ і атрымаць ступень магістра або доктара.

**Дакументы, неабходныя для паступлення:**

- заява (напісаная ўласнаручна);
- біяграфія (напісаная ўласнаручна);
- рэкамендацыйны ліст ад пробашча парафіі;
- копіі пасведчанняў аб сакрамантах хросту і канфірмацыі;
- копія атэстата аб агульнай сярэдняй адукацыі або іншыя дакументы аб адукацыі;
- копія пашпарта (стар. 31–33);
- 3 фотаздымкі (3х4);
- медыцынская даведка;
- анкета (запаўняецца пры падачы дакументаў).

**Уступныя іспыты:**

- экзамен з катэхізіса і агульных ведаў пра Каталіцкі Касцёл;
- кваліфікацыйная размова.

## РЭКАЛЕКЦЫІ ЦВЯРОЗАСЦІ ПРОЙДУЦЬ У БРАСЛАВЕ

**Духоўныя практыкаванні запланаваны на 18–21 ліпеня.**

Арганізатары запрашаюць да ўдзелу ўсіх, хто так ці інакш сутыкнуўся з праблемай алкагольнай або наркатычнай залежнасці ў сваім жыцці, сам ці ў сям'і.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефонах: (8 033) 325-57-64 – Юрый, (8 029) 819-50-85 – Ларыса, (8 029) 622-97-12 – а. Андрэй.*

## РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ЮНАКОЎ АДБУДУЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Духоўныя практыкаванні пад назвай "Будзьце адважнымі, гэта Я; не бойцеся!" (Мц 14, 27) пройдуць у Вышэйшай духоўнай семінарыі 18–21 ліпеня.**

У праграме рэкалекцый прадугледжаны сустрэчы са святарамі і семінарыстамі, малітва, разважанне над Святым Пісаннем, спартыўныя гульні і іншыя мерапрыемствы. Удзельнікі духоўных практыкаванняў змогуць перажыць хвіліны цішыні і разважання над сваім жыццёвым шляхам, адчуць клімат семінарыйнага жыцця, а таксама ўзбагаціць свае веды адносна праўд веры і малітвы.

Да ўдзелу запрашаюцца юнакі ад 14-ці гадоў, асаблівым чынам міністранты.

Пры сабе неабходна мець Святое Пісанне, комжу і спартыўную вопратку.

*Запіс па тэлефонах: (8 0152) 62-22-22, (8 033) 689-10-39.*

## ЮБІЛЕЙНЫЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ ПРОЙДУЦЬ У ГУДАГАІ

**Фэст у Дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Шкаплернай адбудзецца 13–14 ліпеня.**

Праграма

**13 ліпеня**

18.00 – св. Імша (узначаліць дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі);
– заканчэнне Навэнны да Маці Божай;
20.00 – Крыжовы шлях на Кальварыі (узначаліць дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі);
23.15 – Нешпары аб НПМ з разважаннем.

**14 ліпеня**

00.00 – працэсія са свечкамі;
– св. Імша (узначаліць дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі);
– начное чуванне і адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
08.30 – Гадзінкі аб НПМ;
09.30 – св. Імша на польскай мове (узначаліць кс. канонік Юзаф Багдзевіч);
11.00 – Вяночак да Божай міласэрнасці;
12.00 – адпустовая св. Імша (узначаліць біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч).

*Сёлета ў Гудагаі прыпадае 255-ая гадавіна асвячэння касцёла, 5-годдзе ўстанаўлення тут дыяцэзіяльнага санктуарыя і 10-годдзе асвячэння гудагайскай Кальварыі.*

## Каляндар падзей

***3 ліпеня***
*Свята св. апостала Тамаша.*

***5–6 ліпеня***
*Урачыстасці ў Нацыянальным санктуарыі Маці Божай у Будславе.*

***11 ліпеня***
*Свята св. Бенедыкта, абата, апекуна Еўропы.*

***12–13 ліпеня***
*Урачыстасці ў Дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Чэрвень***
*Аб Божым блаславенні для парафіяльных супольнасцей нашай дыяцэзіі, якія будуюць новыя святыні.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

***Ліпень***
*Аб аддаленні спакусы да граху ад дзяцей і моладзі, а таксама аб умацненні бацькоўскага клопату ў рэлігійным выхаванні маладога пакалення.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

# Ад шчырага сэрца

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шанчуку

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага бласлаўлення, апекі Панны Марыі на кожны дзень. Няхай радасць, любоў, супакой і дабрыня заўсёды жывуць у Вашым сэрцы. Дзякуем за ахвярную працу, мудрыя словы і бацькоўскі клопат пра сваіх парафіян.

*Вернікі з парафіі Гожа*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Пятру Кубелю

з нагоды Імянін і Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай і Анёла-ахоўніка, стойкасці на святарскім шляху, які вызначыў Вам усемагутны Бог, а таксама людской дабрыні. Мы схіляем нізка галовы, дзякуючы Вам за абвяшчэнне Божага слова, ахвярную працу, цярплівасць, дабрыню і веліч сэрца.

*Вернікі з Крупава*

### Паважанаму Айцу Паўлу Раманчуку

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шмат здароўя, цярплівасці ў душпастырскай працы, апекі Маці Божай і святога Заступніка, дароў Святога Духа, патрэбных ласкаў ад Усемагутнага. Няхай Бог адорвае Вас сваёй любоўю і бласлаўленнем, людская дабрыня і зычлівасць заўсёды спадарожнічаюць, а кожны дзень працы прыносіць шчодры плён.

*Рыцарства Беззаганнай і Кола адарацыі*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Калесніку

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем добрага здароўя, радасці, усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны прамянямі Божай міласэрнасці.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Жодзішкаў*

### Дарагі Ксёндз Пробашч Юрый Бяганскі!

З нагоды 1-ай гадавіны паслугі ў нашай парафіі ад усяго сэрца дзякуем Вам за цудоўную службу на душпастырскай ніве, эфектыўнае кіраванне парафіяй і працу на карысць святыні і парафіяльнага дома. Складаем сардэчнае "аддзяч, Божа!" за час, прысвечаны яднанню нас з Панам у сакраманце пакаяння, за малітву, бласлаўленне, удзеленыя сакраманты і ўсе ласкі, якія праз Вашу паслугу мы атрымалі ад Пана. Жадаем, каб Усемагутны блаславіў у кожнай справе, Маці Божая Тракельская, наша Заступніца, выпрошвала патрэбныя ласкі, а Святы Дух напаўняў моцай, неабходнай, каб супрацьстаяць новым выклікам на хвалу Езуса Хрыста.

*Вернікі з парафіі Наведвання НПМ у Тракелях*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Астукевічу

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, стойкасці на святарскім шляху. Няхай Пан Езус прытуляе Вас да свайго сэрца і асвячае прамянямі міласэрнасці, а Маці Божая кіруе Вамі кожны дзень.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Індуры*

### Паважанаму Айцу Пятру Марцінцу

з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай здароўе спрыяе, аптымізм ніколі не пакідае сэрца, побач будуць добразычлівыя людзі, святы Заступнік ахінае сваёй апекай, а Божы Провід вядзе па сцежках гэтага жыцця і дапаможа дайсці да Нябеснага Валадарства. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Азёраў*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шанчуку

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай святы Заступнік заўсёды будзе побач, штодзённа апекуецца Вамі і ўзносіць свае малітвы да Божага трона, каб Усемагутны нястомна адорваў Вас здароўем, радасцю, надзеяй і моцай.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Гожы*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Беланосу

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы і бласлаўлёны. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Макараўцаў*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Лазоўскаму

з нагоды Імянін ад усёй душы жадаем здароўя, радасці, святла. Няхай Пан Бог дасць сілы, каб паслуга была плённай і здзяйсняліся ўсе планы ды задумы. Няхай Святы Дух заўжды дапамагае, а Анёл-ахоўнік аберагае ад непрыемнасцей. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам са Струбніцы*

### Паважанаму Ксяндзу Пятру-Паўлу Кубелю

з нагоды Імянін сардэчна жадаем здароўя, сілы, надзеі, жыццёвай мудрасці, душэўнага супакою, Божага бласлаўлення, апекі Панны Марыі і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай кожны пражыты дзень прыносіць сілу і радасць для выканання душпастырскай працы. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Крупава і Валдацішкаў*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай, заступніцтва св. апостала Паўла, стойкасці на святарскім шляху, які вызначыў Вам усемагутны Бог, і людской дабрыні. Мы шчаслівыя, што Вы з намі, і ўдзячны Вам за працу ў нашай парафіі, цярплівасць да нас, за прыгожыя, мудрыя, павучальныя казанні, дабрыню і сціпласць, клопат пра людзей і чулае сэрца.

*З малітвай і павагай вернікі з парафіі св. Юрыя ў Варнянах і капліцы ў Вароне*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Раманоўскаму

з нагоды Імянін складаем сардэчныя віншаванні. Няхай Пан Езус будзе шчодрым на свае ласкі, а Яго вялікае добрае сэрца адорвае Вас спакоем. Няхай Усемагутны ўзнагародзіць Вас моцным здароўем, стойкасцю і святлом, каб святарскі шлях быў шчаслівы і бласлаўлёны, а кожны дзень – ясны і радасны. Няхай Маці Божая ахінае Вас апекай, а Святы Дух нястомна жыве ў Вашым сэрцы і ніколі не дазволіць забыцца пра тое, што ў святарскім жыцці самае важнае.

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, Апостальства вечнай малітвы за святароў "Маргарытка" і вернікі з Радуні*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю

з нагоды Імянін і Дня нараджэння складаем цёплыя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Няхай Усемагутны і Маці Божая заўсёды трымаюць Вас у сваёй апецы, а Святы Дух натхняе на добрыя і годная справы. Жадаем, каб святы Заступнік моцна трымаў Вас за руку і дапамагаў у розных складаных жыццёвых сітуацыях. Шчасці Божа!

*Парафіяне з Галынкі*

### Паважанаму Ксяндзу Алегу Яновічу

з нагоды Дня нараджэння складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Пан адорвае патрэбнымі ласкамі, Маці Божая апекуецца Вамі, а святы Заступнік заўсёды будзе побач у складаныя жыццёвыя моманты. Жадаем нязгаснага запалу ў душпастырскай працы, усмешкі на твары, сіл і натхнення ў служэнні Богу і людзям. Дзякуем за добрыя словы, уважлівасць і чуласць.

*З удзячнасцю і павагай вернікі з парафіі св. Яна Паўла II, Смаргонь*

### Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Пузыну, Яну Варанецкаму і Паўлу Паўлюкевічу

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, спакою, Божай ласкі і апекі святога Заступніка. Бог даў Вам мудрасць, цярплівасць, любоў і сваю апеку. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, малітву, павучальныя казанні і за тое, што Вы з намі і для нас.

*Вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Адамовічу

з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя, радасці, людской добразычлівасці, а таксама Божага бласлаўлення ў кожную хвіліну жыцця. Няхай Маці Божая і святы Заступнік ахоўваюць і дапамагаюць, а Святы Дух дадае сіл, стойкасці на выбраным шляху і натхнення для здзяйснення ўсіх мар.

*Вернікі з в. Салтанішкі парафіі Нача*

### Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу

з нагоды Імянін шчыра жадаем усіх ласкаў ад усемагутнага Бога, апекі Найсвяцейшай Маці і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай здароўе заўсёды спрыяе, радасць і моц ніколі не пакідаюць, а побач будуць добразычлівыя людзі. Няхай Езус Хрыстус падтрымлівае ў кожнай справе, а святы Заступнік нястомна чувае над Вамі.

*Люцыя Лабэцкая і Станіслава Сідаровіч з парафіі Волпа*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Беланосу

з нагоды Імянін жадаем сіл, цярплівасці і стойкасці ў святарскай паслузе. Будзьце сапраўднай зброяй у руках Хрыста, навяртайце людзей да Бога, а таксама сваім жыццём і прыкладам давайце сведчанне аб Яго любові і штодзённай прысутнасці. Няхай Бог дапамагае Вам у гэтым сваімі ласкамі і дарамі Святога Духа, а Найсвяцейшая Маці няхай клапоціцца пра Вас.

*Удзячныя парафіяне з Макараўцаў*

### Паважаным Ксяндзам Паўлу Безляповічу і Паўлу Мазану

з нагоды Імянін шчыра жадаем моцнага здароўя, неабходных сіл у святарскім служэнні, душэўнага супакою і Божага бласлаўлення на кожны дзень жыцця. Няхай усе мары і задумы здзяйсняюцца, а міласцівы Бог адорвае сваёю любоўю, дабрынёй і цяплом.

*Вернікі з Макараўцаў*

### Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку

з нагоды 32-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў ад шчырага сэрца жадаем шмат радасці і душэўнага супакою, сіл і цярплівасці ў штодзённай паслузе, а таксама добрых і зычлівых людзей навокал. Няхай Пан Бог штодзённа Вас бласлаўляе, Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай і любоўю, а Святы Дух спасылае шчодрыя дары.

*Яна, Вераніка, Валерый*

### Паважанаму Ксяндзу Пятру Вішнеўскаму

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог узнагародзіць моцным здароўем на доўгія гады і адорвае стойкасцю ў паслузе, Езус Хрыстус асвячае шлях, а Найсвяцейшая Маці заўсёды ахінае апекай.

*Удзячныя парафіяне з касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Шылавічах*

### Паважанаму Ксяндзу Яну Гавэцкаму

з нагоды Імянін шчыра жадаем моцнага здароўя, бясконцых творчых сіл і штодзённай радасці ад плёну душпастырскай працы. Няхай Езус заўсёды будзе Сябрам, Святы Дух апраменьвае сваім святлом, Маці Божая трымае пад сваёй апекай, а святы Заступнік будзе побач. Няхай агеньчык аптымізму ніколі не гасне ў сэрцы і кожны Ваш дзень будзе асвечаны любоўю, міласэрнасцю, супакоем, шчасцем, верай ды надзеяй.

*Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка" з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

### Паважанаму Ксяндзу Алегу Яновічу

з нагоды 30-годдзя і Імянін жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, усмешкі на твары, Божай дапамогі ў спаўненні ўсіх задум, як мага больш адкрытых і шчырых людскіх сэрцаў навокал, безупыннай надзеі, радасці ад паклікання і Хрыстовай любові, каб кожны Ваш дзень быў сонечны і шчаслівы.

*Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка" з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму

з нагоды Імянін і Дня нараджэння жадаем шмат Божых ласкаў, моцнага здароўя, дабрабыту, шчасця, ажыццяўлення планаў і мар. Шчыра дзякуем за Божае слова, якое праз Вас становіцца жывым і рэальным, а трапляючы ў сэрцы вернікаў распальвае агонь веры ў Бога. Няхай Святы Дух няспынна спасылае на Вас свае шчодрыя дары, Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік нястомна апекуецца, а Анёл-ахоўнік чувае і вядзе да святасці. Мы заўсёды памятаем пра Вас у малітве.

*Малітоўная група МБ Кангрэгацкай*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шанчуку

з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў: добрага здароўя, цярплівасці, стойкасці на святарскім шляху і задавальнення ад выконваемай паслугі. Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі, Найсвяцейшая Маці Божая і святы Заступнік нястомна апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае і дапамагае годна перажываць кожны дзень. Дзякуем Вам за шчырую малітву і адданую працу ў нашай парафіі.

*Вернікі з парафіі Маці Божай Шкаплернай, в. Прывалка*

### Паважаным Ксяндзам Паўлу Урбану, Паўлу Звяжынскаму, Паўлу Гардзейчыку і Паўлу Раманоўскаму

з нагоды Імянін сардэчна жадаем моцнага здароўя і штодзённай радасці. Няхай дарога, якую Вы абралі, будзе шчаслівай і добрай, каб маглі з радасцю служыць Богу і людзям. Няхай Вамі заўсёды апекуюцца Бог Айцец, Божы Сын і Святы Дух, а Найсвяцейшая Маці прытуляе да свайго сэрца і дапамагае ў цяжкія хвіліны жыцця.

*З малітвай і павагай вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

### Паважанаму Ксяндзу Віктару Савіцкаму

з нагоды Дня нараджэння і Імянін складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, поспехаў і добразычлівых людзей побач. Няхай святарскае жыццё будзе шчаслівым і бласлаўлёным, Пан Бог адорвае шчодрымі ласкамі, а святы Заступнік мае ў сваёй апецы.

*Ружанцовае кола і вернікі з капліцы Вінцукі*

### Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу

з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, людской зычлівасці, а таксама ўсіх Божых ласкаў, апекі Панны Марыі і святога Заступніка. Дзякуем за адкрытае сэрца, адданае служэнне, мудрыя казанні і парады, клопат пра нас і святыню. Шчасці Божа!

*Касцёльны камітэт і парафіяльны хор з Начы*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму

з нагоды Дня нараджэння, Імянін і юбілею святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, стойкасці ў душпастырскай працы, людской зычлівасці, павагі ад парафіян. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе шчаслівы, а кожны дзень прыносіць радасць, задавальненне і шчодры плён. Няхай Бог, якому Вы даверыліся да канца жыцця, бласлаўляе Вас у цяжкай і адказнай святарскай працы, а Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік няспынна апекуюцца Вамі.

*З малітвай апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Безляповічу

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, сілы, душэўнага супакою, нязгаснага запалу і шчодрага плёну ў працы, моцы Святога Духа, пазнання ўсяго, што з'яўляецца добрым, прыгожым і высакародным. Няхай сэрца цешыцца з маладосці і павагі людзей, якія знаходзяцца побач, а радасць назаўсёды паселіцца ў Вашым сэрцы.

*З малітвай апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму

з нагоды Імянін перасылаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя, шчырых людзей побач, вялікай ласкі ад Пана і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці. Жадаем такой моцнай веры, як найбольшы дыямент, такой нязгаснай радасці, як гарачае летняе сонца, такой вялікай Божай любові, як цэлы Сусвет. Няхай Пан асвячае Ваш жыццёвы шлях, узмацняе сэрца, каб прамоўленае Вамі слова станавілася моцай нашай веры, дадае сіл, каб вытрымалі ўсе цяжкасці ў будаванні касцёла. Дзякуем за спагадлівасць, клопат аб парафіянах і святыні, мудрыя казанні і добрае сэрца.

*Касцёльны камітэт, Ружанцовыя колы і вернікі з парафіі Каробчыцы*

### Паважанаму Ксяндзу Зянону Рамейку

з нагоды свята Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса, Імянін і Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог дадае Вам моцы, Святы Дух адорвае мудрасцю і спакоем, а Маці Божая і святы Заступнік заўсёды аберагаюць. Выражаем пашану і ўдзячнасць за натхнёную працу на ніве Пана і за мудрыя навучанні, якія дапамагаюць нам быць сапраўднымі хрысціянамі, а таксама за тое, што набліжаеце нас да Бога. Просім Усемагутнага аб патрэбных ласках для Вас, а таксама аб дары здароўя, такога неабходнага для паслугі.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і парафіяне з Астрыны*

### Паважанаму Ксяндзу Пятру Вішнеўскаму

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: патрэбных ласкаў ад Езуса Хрыста, здароўя на доўгія гады, мноства радасных дзён, душэўнага супакою і цішыні ў сэрцы. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік ахінаюць Вас сваёй апекай, а Анёл-ахоўнік заўсёды аберагае ад зла.

*Парафіяне з касцёла св. сястры Фаўстыны ў Субачах і Косіна*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

складаю выразы шчырага жалю і спачування ў сувязі са смерцю таты Юзафа. Яднаюся з Вамі ў малітве аб вечным супакоі для памерлага.

*Парафіянка Яніна*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

перасылаем словы шчырага жалю і спачування ў сувязі з адыходам у вечнасць бацькі. Няхай міласэрны Бог як мага хутчэй прыме душу памерлага ў сваё Валадарства.

*Студэнты Тэалагічнага каледжа імя св. Казіміра ў Гродне*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2904; тыраж 5045; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная